PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1833) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 30 ЧЭРВЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.



*Экуменічная багаслужба ў саборы Св. Мікалая.*

## ПАПА РЫМСКІ Ў БЕЛАСТОКУ

З выпадку візіту найвышэйшага біскупа Рыма-каталіцкага касцёла ў Беласток сустракаць дастойнага госця на спартыўным лётнішчы ў Крыўлянах сабралася звыш чатырохсот тысяч чалавек. Усе яны мірна разыходзіліся ў свае сектары, каб там чакаць гэтай гістарычнай падзеі. Я са сваім журналісцкім білетам накіроўваюся ў трэцюю зону. Трэцяя зона, маўляў, фізічнага кантакту з Папам не абазначае, але рады паліцыянтаў ды іншых ахоўнікаў парадку становяцца тут шчыльнейшымі — трэба паказваць дакументы, ідзе ў рух электронная апаратура.

У метрах трохстах адгэтуль красуецца велічны алтар. У ягонай падставе — скульптура, якая прадстаўляе дрэва. Алтар завяршаецца паўкругам. Голас з мегафонаў тлумачыць сабраным, што дрэва сімвалізуе Касцёл. Паўкруг — гэта вясёлка, якая, пасля камуністычнай навалы, абазначае надзею ды пагадненне. Гэты самы голас заклікае вернікаў адбыць пробу спеву, каб падчас літургіі ўсё гучала ўпэўнена і дастойна.

Каля паловы адзінаццатай (5 чэрвеня) натоўпы на крыўлянскім лётнішчы пачынаюць углядацца ў неба — паводле праграмы візіту Папа павінен ужо прызямляцца. І сапраўды, каторы ўжо раз давялося мне пераканацца ў дасканалай арганізацыі падобных мерапрыемстваў — пададзена, што а 10.30, а значыць іначай і быць не можа. На небе ад горада, паяўляецца невялікая кропка, якая паступова набірае кшталты верталёта. Натоўпы прыўстаюць, над галовамі хвалюецца мора сцяжкоў з ватыканскімі сімваламі. Годна прывітайма Святога Айца на польскай беластоцкай зямлі, нясецца з мегафонаў. На небе з'яўляецца другая кропка, трэцяя... Агульны экстаз, як мне здалося, набліжаўся да зеніту. Годна прывітайма...

Папу рымскага прывітаў Апостальскі адміністратар у Беластоку Эдвард Кісель у прысутнасці шматлікіх рэлігійна-грамадска-палітычных дзеячоў. Затым Ян Павел II рушыў папамобілем, паміж сектарамі, у кірунку алтара.

Узыходзячы на алтар, найвышэйшы біскуп Рыма-каталіцкага касцёла запыніўся ў палове ўсходаў ды прывітаў натоўпы вернікаў жэстам рымскіх імператараў. Вялікая ёсць магутнасць Ватыкана, а выяўляецца яна ў поўнай сваёй красе не ў Ватыкане і не ў Італіі, а якраз падчас замежных падарожжаў Яна Паўла II, калі літургіі гуртуюць сотні тысяч удзельнікаў. Так яно адбывалася і ў Крыўлянах, падчас чацвёртай пілігрымкі Папы на радзіму.

Пасля ўводных напеваў, якія выканалі хоры беластоцкіх навучальных устаноў (250 чалавек), пачалася першая частка літургіі. Апостальскі адміністратар у Беластоку — неслася з мегафонаў — пакорна просіць Вашу Святасць увесці ў лік благаславёных Слугу Божую Баляславу Марыю Лямэнт. Затым быў зачытаны кароткі жыццяпіс Баляславы Лямэнт — у гадах 1903—21 займалася яна рэлігійна-асветніцкай працай на Беларусі, мэтаю якой было пагадненне і з'яднанне Каталіцкага касцёла і Праваслаўнай царквы. Ян Павел II урачыста выказаў беатыфікацыйную формулу. Пачалася Літургія Слова.

У пропаведзі Ян Павел II засяродзіўся на тэме сёмай Божай запаведзі ды на значэнні, якое гэтая запаведзь мае ў наш час. Калі скажу, што ў гэтак званы мінулы перыяд, гаварыў Ян Павел II, грамадства атрымала ў

(Працяг на стар. 6)

## КОНКУРС НА ЛЕПШАГА НАСТАЎНІКА



У пачатку гэтага навучальнага года Ваяводская рада педагагічнага прагрэсу ў Беластоку супольна з гродзенскім Педагагічным таварыствам аб'явіла конкурс на лепшага настаўніка беларускай мовы і літаратуры.

Удзельнікі конкурсу па абодва бакі граніцы павінны былі выказацца не толькі добрай падрыхтоўкай для выконвання сваёй прафесіі, але і вялікай актыўнасцю ў арганізацыі свайго варштату працы (дапаможнікі ўласнага праекту і вырабу, актыўны падыход да методыкі навучання беларускай мовы, працы з дзецьмі і асяроддзем у развіцці нацыянальнай свядомасці, захавання традыцый, пазнавання роднай гісторыі і культуры).

Гродзенцы правялі падсумаванне конкурсу сярод сваіх школ, а беластачане асобна ў сябе. Затым, як планавалася, павінны адбыцца ўзаемныя сустрэчы шасці найлепшых з Гродзеншчыны і Беласточчыны для абмену вопытам.

У маі пачалося падсумаванне конкурсу. Камісія, створаная Ваяводскай радай педагагічнага прагрэсу ў Беластоку, наведала адзінаццаць школаў, з якіх настаўнікі даслалі сваю згоду на ўдзел у гэтым конкурсе. У складзе камісіі былі старшыня Ваяводскай рады педагагічнага прагрэсу Янка Зенюк, сакратар гэтай жа рады Луцыя Лазоўская, дарадчык-метадык беларускай мовы ад імя беластоцкай куратарыі Тамара Русачык і я як шматгадовы рэдактар „Зоркі".

Такім чынам у складзе камісіі мне давялося наведаць адзінаццаць школаў, дзе навучаецца беларуская мова. Мяркую, што былі гэта лепшыя школы, якія мелі што паказаць камісіі, у якіх настаўнікі не толькі добра выконваюць свае абавязкі, але ўкладваюць шмат сэрца ў працу з дзецьмі. Розныя былі гэта школы — і гарадскія, вялікія, і маленькія, вясковыя школкі, якія працуюць у цяжкіх памяш-

(Працяг на стар. 6)

# МОВА—ГАЛОЎНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАБЫТАК

**(Прамова ВАСІЛЯ БЫКАВА на Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Мінску — 25.05. 1991 г.).**

Беларусы — мабыць, адна з самых няшчасных нацый Еўропы. Не зважаючы на ўсе нашы, зусім неблагія, Богам дадзеныя чалавечыя якасці, мы дагэтуль не маем таго, чаго варта мець кожная нацыя свету, дзеля чаго, па сутнасці, яна існуе пад небам. І ўсё таму, што з нейкага капрызу гісторыі мы ўпусцілі свой нацыянальны цягнік і апынуліся ў ролі вечных паязджан, пазбаўленых прыстойнага лёсу, здатнага прытулку дзяржаўнасці. Можа толькі цяпер гісторыя дае нам пэўны і надта сумніцельны шанец і ўсё залежыць ад таго, ці пакарыстаемся мы ім. Ці ён у каторы раз выслізне з нашых рук, асабліва, калі ёсць надта спрытныя рукі, якія б'юць спрактыкавана, пад дых. Зноў, як і заўжды, найбольшыя спадзяванні на нашу мову, гэты галоўны нацыянальны набытак, нашае гістарычнае апірышча. Нездарма яе так вынішчалі стагоддзямі, забаранялі, аплёўвалі, адвучвалі ад яе цэлыя пакаленні. У імперыі патрэбна была адна імперская мова. Але калі мы, нацыянальна паніпчаныя, класава раз'яднаныя, спаскуджаныя шматгадовай маной, нешта ўсё ж значым у сусветнай суполцы народаў, дык найперш праз гэтую нашу мову. Без яе ад нас не засталося б і следу, як не засталося яго ад колішніх тутэйшых яцьвягаў. Мова верна служыла народу ў добры і благі час, ратавала яго існаванне, ніколі не здраджвала яму. Гэта ёй нярэдка і няўдзячна здраджвалі на Беларусі, за што заўжды былі бязлітасна караны Богам і гісторыяй. На гэтай мове праз пэўную долю маны і пустаслоўя створаны, аднак, самы светлы і высакародны фальклор, напісана немалая літаратура.

І сёння я рады вітаць у гэтай зале нашых братоў у выгнанні, а таксама нашых знакамітых паслоў — паўнамоцных прадстаўнікоў беларушчыны ў розных краінах свету. Гэта іх намаганнямі народы пазналі Беларусь і беларусаў, высакароднасць нашага сэрца, наш бясхітрасны розум і наш неспатольны боль. Так, менавіта боль — гэта наш гістарычны спадарожнік, які ні на год не пакідаў нас у мінулым, не пакідае і зараз. У нашай імперыі даўно ўжо няма шчаслівых народаў, але беларусы, як ужо сказана, можа самыя нешчаслівыя сярод іх. Бо не



зважаючы на гаманкую імітацыю рэфармізму, на Беларусі нічога не мяняецца, па-ранейшаму нашай афіцыйнай рэлігіяй застаецца сацыялістычная дэмагогія. Наш парламент — не болей чым гаманкая сходка камуністаў, занепакоеных адзінай праблемай — утрыманнем улады.

У нас беззваротна паніпчана сялянства, гэты традыцыйны асяродак беларускасці. Наш рабочы клас робіць толькі першыя няўмелыя спробы ўстаць з каленяў, а наша нацыянальная інтэлігенцыя ў масе сваёй — тыповае ўвасабленне лакейскага канфармізму. Менавіта ў гэткіх варунках беларускі народ наблізіўся да краху нацыянальнай культуры і дзяржаўнай эканомікі. Наперадзе нас чакае татальны заняпад і голад з усімі яго жахлівымі наступствамі. Перспектыва выжывання нацыі, густа засыпанай да таго ж радыёнуклідамі, абсалютна няпэўная, калі не зусім змрочная. У гэткіх варунках ашчаднікамі нашай нацыянальнай існасці можа стаць беларуская дыяспара, выгнанне, дзе высілкамі беларускіх патрыётаў можа захавацца наш нацыянальна-культурны генафонд. У нас на Беларусі тое ўжо немагчыма, тое панішчыцца, калі не пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, якая не паспела зрабіць тое ў свой час, дык ва ўмовах рыначнай эканомікі. Гістарычны вопыт паказвае, што зберагчы сябе ды сваю існасць нацыя здольна толькі ва ўмовах абсалютнага суверэнітэта. Дзяржаўны суверэнітэт, поўная культурная самастойнасць і палітычная незалежнасць — не заганная ідэалогія і не сепаратысцкае палітыканства, як гэта сцвярджаюць шавіністы-дзяржаўнікі, гэта адзіна магчымая форма нацыянальнага выжывання ў сучасных савецкіх умовах.

Без поўнай палітычнай незалежнасці нацыя з такім аслабленым у нацыянальных адносінах менталітэтам, выжыць не можа. Таму зусім наіўнымі, калі не яўна спекулятыўнымі, з'яўляюцца намеры тых нашых псеўдапатрыётаў, якія цешаць сябе ілюзіямі дамагчыся захавання беларушчыны метадам прыручэння да яе „правільнай", „нескажонай" камуністычнасці, бальшавізму з „ласкавым чалавечым" тварам. Які ў бальшавізма твар, чалавецтва добра ўжо ўведала, і нідзе той твар не мяняецца. Ён нязменны.

Так, спадзяванак у нас няшмат і можа апошняя наша надзея на несмяротную сутнасць народа. Усё ж дзеля чагосьці ён быў створаны Богам на гэтай благаславёнай зямлі. І мы цешым сябе думкаю, што Беларусь яшчэ неяк паслужыць на ёй, калі не нам, дык наступным пакаленням, а можа і сусветнай цывілізацыі. У гэтым сэнсе мы і вызначаем наш абавязак і бачым нашу святую надзею, якія мы і ажыццяўляем, наколькі тое нам дадзена бязлітасным лёсам і не меней жорсткай гісторыяй.

# Віцебскія краязнаўцы

**Часцяком здаецца, што Віцебшчына наша, і ў прыватнасці Віцебск, цяжкая на пад'ём у справе нацыянальнага адраджэння. І гэта, на жаль, сапраўды так. Аднак усё ж паціху-патроху „тутэйшыя" прачынаюцца ад шматгадовае духоўнае спячкі. І сведчаннем таму — аднаўленне на пачатку гэтага года працы абласнога краязнаўчага аб'яднання (ВАКА). Мэта мясцовых краязнаўцаў — працягваць і пашыраць лепшыя традыцыі краязнаўчай працы, закладзеныя яшчэ ў мінулым стагоддзі і плённа прадоўжаныя ў 20-ыя гады нашага веку.**

**Згуртаваныя на ніве беларушчыны некалькі дзесяткаў руплівцаў-краязнаўцаў ужо пачалі сумесную дзейнасць: выпрацавалі і распаўсюдзілі каляндар памятных дат Віцебшчыны на 1991 год, звярнуліся з заклікам „да ўсіх, у чыіх сэрцах існуе гарачая любоў да нашай Віцебшчыны, каму неабыякавы яе лёс, яе мінулае й будучыня", каб выпрацавалі праграму працы на бліжэйшы час...**

**Але галоўнаю справаю віцебскіх краязнаўцаў стала ўрачыстае адзначэнне ў сакавічу 140-ых угодкаў з дня нараджэння Аляксея Парфенавіча Сапунова (1851-1924), знакамітага беларускага гісторыка і краязнаўцы. Аб'яднанне падрыхтавала з гэтае нагоды вялікую імпрэзу, якая ўключала ў сябе паніхіду ў царкве, экскурсію па сапуноўскіх месцах, выставу з матэрыялаў асабістага архіву прафесара, і Сапуноўскія чытанні, якія, магчыма, стануць традыцыйнымі. Мясцовы друк змясціў пра юбілей аб'ёмныя артыкулы, напісаныя сябрамі ВАКА.**

**У планах краязнаўцаў шмат цікавага і неардынарнага. Але ж пасля дзесяцігоддзяў цкавання ды забаронаў вельмі нялёгка распачынаць усё зноўку, амаль з нуля. І таму рада Віцебскага абласнога краязнаўчага аб'яднання звярнулася да ўсіх, каго цікавіць гісторыя і культура Бацькаўшчыны, каму неабыякавая ейная будучыня, з заклікам з'яднаць намаганні ў супольнай працы. Рада таксама звяртаецца да ўсіх, хто жыве па-за межамі БССР, але чые карані звязаны з Віцебшчынай, з прапановай усталяваць узаемакарысныя кантакты, ВАКА просіць накіроўваць лісты на адрас:** СССР, Беларусь, 210035, г. Віцебск, вул. Церашковай, д. 6, кв. 75, Хмяльніцкая Людміла.

**Ю. Сцяпанаў**

# Першы нумар „НН"

З Вільні зноў чуваць голас „Нашай нівы". Пасля 76-гадовага перапынку першы нумар адноўленай газеты выйшаў у траўні сёлета. Адрас „Нашай нівы": *232041 Вільня, а/с 2082.* Жадаючым падпісацца на газету трэба звяртацца на адрас: *220131 Менск, а/с 229, Чубрык К. М.* Як паведамляюць выдаўцы, на гэты адрас можна даслаць адвольную суму грошай. Пасля атрымання належнай колькасці нумароў падпісчык атрымае паведамленне аб неабходнасці працягваць падпіску. Падпісчыкам з Польшчы, дадам ужо ад сябе, найразумней (і адначасова — найтанней) будзе дасылаць савецкія рублі. Пра іншыя валюты нічога пэўнага нельга сказаць. Цана аднаго асобніка першага нумара „НН" — 1 рубель. Пры падпісцы на некалькі асобнікаў ейныя кошты зніжаюцца (2 — на 10%, 3 — 25%, 4 і болей — на 50%).

Пра што можна пачытаць у першым нумары адноўленай віленскай газеты? Пра нашы прывіды і кашмары, ад якіх намагаемся прачнуцца, як сказаў бы Дж. Джойс. Значыць, пра гісторыю. Генадзь Сагановіч піша аб неадэкватнасці мовы гістарыяграфіі ў дачыненні да Беларусі, да ейнай гісторыі. Гісторыі Беларусі як гісторыі суб'екта — вось чаго не маюць беларусы. Абапіраючыся на некаторыя знаходкі ў гістарычных крыніцах, Сагановіч паказвае шлях, якім трэба правесці пажаданую гістарычную „суб'ектывізацыю". Кажучы канкрэтна, ён прапануе болей адэкватныя назвы некаторым гістарычным мясарубкам... Змешчаны побач (што значыць — на той самай бачыне) тэкст Ігара Бабкова ў сваіх высновах зводзіць на нуль якія-кольвечы спробы „суб'ектывізацыі" беларускай гісторыі ў прынцыпе. Беларусы не жылі ў лінейным „гістарычным" часе, так як разумеюць яго ў падручніках гісторыі, а ў касмічным кругавароце — часе цыклічным... Захаваліся як нацыя, як адметная культура дзякуючы гэтаму якраз. Беларуская гісторыя, кажа Бабкоў, „гэта сон, які сніўся нікому". „Героі й ахвяры" С. Паўлоўскага датычыць кашмару ўжо савецкага перыяду. Апошняя вайна, партызаны, праўда, паўпраўда, хлусня... Пасля чорна-белых штампаў у беларускай публіцыстыцы наступае час вялікай амбіваленцыі праўды. Апавяданне С. Астраўцова „Мытыя яблыкі" (водбліск-успамін часу савецка-садружнай „дапамогі" чэхам і славакам у 68-м) і „Спачатку быў Гданьск" (той у 70-м) А. Ч. — гэта ўжо кашмары зусім сучасныя...

Занатоўкі з падарожжа ў Венгрыю („За бугром, за рэчкай") Уладзімера Арлова — узор „падарожнага жанру" ў беларускай мове... Лішні раз У. Арлоў даказвае, што пісьменнік у беларусаў ён невыпадковы.

„Камунізм без берагоў" Валянціна Акудовіча — тэкст хрэстаматыйны, так бы мовіць, перла ў жанры крытычнага агляду. Ён пра дыялектычнае курэўства у беларускім літаратуразнаўстве й наваколлі. Сапраўды, першы клас...

З літаратуры: паэмка „Улялюм" Эдгара По (у перакладзе, трэба здагадвацца, Алега Мінкіна), апавяданне Дж Сэлінджэра (зноў жа наўздагад — пераклад Ігара Бабкова), „Трыпціх" Алега Мінкіна (тым разам упэўнена).

Падумалася мне ў міжчасе: а што, калі б у Вільні пачаў яшчэ выходзіць альманах „Тутэйшых" — „Літаратура", як рэгулярны, скажам, штомесячнік? Ляснуў бы Менск, ой ляснуў, з усёй сваёй інтэлектуальнай перыёдыкай...

Спадар Дубавец, у кантэксце нашай нядаўняй размовы („Ніва", 9.06.91), мне б хацелася вам паставіць пытанне.

І гэта маюць чытаць нармальныя „безадносныя" (ваша слова) беларусы? Трэба разумець, і трактарысты і шліфавальшчыцы?

Ой...

Гэта ж „Политический собеседник" вас дохлымі сабакамі абвешае...

Ну, я зрабіў, што мог. Вашу „Ніву" я прачытаў дазвання (у дачыненнях з беларускай прэсай такі выпадак мне прыдарыўся разоў некалькі адно з нашай „Нівай"). Адрас газеты і прынцыпы падпіскі падаў. І, заўважце, расхваліў яе да непрыстойнасці. Але ці вы не занадта спадзеяцеся на Максімюкоў сярод чытацкай публікі?!

Да наступнага пачытання. Ваш пастаянны чытач —

**Ян Максімюк**

## ЦАРКОЎНАЕ МАСТАЦТВА ВАЧЫМА ДЗЯЦЕЙ

Аб праваслаўі звычайны паляк ведае столькі, што яно прыйшло з усходу, рускае, маскоўскае. Сёй-той пакажа на Беласточчыну як на месца, дзе і ў Польшчы можна пабачыць цэрквы, дзе жывуць праваслаўныя. Але мала хто арыентуецца, у якім становішчы помнікі іх матэрыяльнай культуры. Драўляныя цэркаўкі пазбаўлены забеспячэння ад агню і ад зладзеяў. Нішчэюць сакральныя аб'екты, могілкі там, адкуль у 1947 былі вывезены ўкраінцы.

Грамадская камісія апекі над помнікамі царкоўнага мастацтва пры Таварыстве апекі над помнікамі культуры (Społeczna Komisja Opieki nad Zabytkami Sztuki Cerkiewnej Towarzystwa Opieki nad Zabytkami) узнікла ў 1983 годзе. Стараецца ратаваць помнікі царкоўнага мастацтва ў Польшчы. Перад усім вядзе ў грамадстве інфармацыйную акцыю, папулярызуе ідэю аховы помнікаў праваслаўнай культуры. Арганізуе выставы, мастацкія пленэры і конкурсы для дзяцей і моладзі.

Сёлета, ад 27 мая да 6 чэрвеня, у варшаўскай галерэі Таварыства паказаны былі ўзнагароджаныя працы сёмага ўжо пластычнага конкурсу „Помнікі царкоўнага мастацтва ў малюнках дзяцей і моладзі". Камісія атрымала 217 работ ад 127 асоб. У пасляконкурснай выставе можна было пабачыць 126 работ 98-мі аўтараў. Палову выставы склалі малюнкі дзяцей з Беласточчыны: Трасцянкі, Новага Беразова, Сямяціч, Гарадка, Война шкаў, Чорнай-Беластоцкай, самога Беластока і з Чаромхі — найбольшая група ўдзельнікаў, амаль трэцяя частка ўсяе выставы!

Аўтары гэтых работ у розным узросце. Іхнія творы роблены рознай тэхнікай, чорна-белыя і каляровыя. Малюнкі цэркваў, каплічак, званіц, крыжоў. Некаторыя, асабліва старэйшыя, малююць святых — іконы на паперы.

Конкурс, дзякуючы якому родзіцца зацікаўленне дзяцей і моладзі мастацкімі і эстэтычнымі каштоўнасцямі царкоўнага мастацтва, праводзіцца і ў гэтым годзе. Прыняць удзел у ім можа кожны да 18 года жыцця. Можна даслаць любую колькасць работ, любой тэхнікай (рысунак, графіка, жывапіс). Удзельнікі конкурсу будуць падзелены на чатыры групы паводле ўзросту: 4-7 гадоў, 8-11 гадоў, 12-15 гадоў і 16-18. На адвароце твораў трэба напісаць сваё імя і прозвішча, адрас, узрост і загаловак твора. Прадбачваюцца ўзнагароды і пасляконкурсная выстава. Аўтары цікавых работ будуць удзельнічаць у мастацкіх пленэрах, арганізаваных у ваколіцах, багатых помнікамі царкоўнага мастацтва. Тэрмін, да якога можна прысылаць работы, — 30 кастрычніка г.г.

Адрас:

Zarząd Główny Towarzystwa Opieki nad Zabytkami
Społeczna Komisja Opieki nad Zabytkami Sztuki Cerkiewnej
ul. Piękna 44 a
00—672 Warszawa

**М. В.**

## Свойскія малюнкі



*Плюцічы, гм. Бельск-Падляшскі. Мал. У. Петрука.*

# Купалаўцы былі ў Беластоку

Бадай ніхто ў Беластоку так, як я, не чакаў прыезду да нас на гастролі Беларускага тэатра імя Янкі Купалы з Мінска. І не таму толькі, што была я „сваццяй" у кантактах Анджэя Якімца (дырэктара Беластоцкага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі) з Валерыем Раеўскім (галоўным рэжысёрам Беларускага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску) і вельмі нервавалася, калі ўжо прыедуць урэшце купалаўцы. Тэатр жа гэты я ведала з малых гадоў, быў ён тэатрам майго юнацтва, і цешыў факт, што прозвішчы некаторых тагачасных акцёраў яшчэ да сёння застаюцца на тэатральных афішах.

Беларускі драматычны тэатр з Мінска быў на гастролях у Беластоку шаснаццаць гадоў таму назад. Пакінуў нам тады незабыўныя ўражанні сваёй пастаноўкай „Трыбунала" Андрэя Макаёнка. На гэты раз выступіў у Беластоку перад тарунскім фестывалем, які меў адбыцца ў пачатку чэрвеня і ў якім браў удзел купалаўскі тэатр.

Гастролі ў Беластоку працягваліся ад 27 да 30 мая. Было пяць спектакляў: тры разы быў паказаны „Крык на хутары" („Страсці па Аўдзею") маладога беларускага аўтара Уладзіміра Бутрамеева і два разы — „Вар'яцкае жыццё" Сямёна Злотнікава, ленінградца ў час напісання гэтай п'есы.

П'еса „Трыбунал", прывезеная купалаўцамі ў першы раз, хаця трактавала пра цяжкія гады акупацыі, была напісана ў стылі бурлескі, у стылі народнай камедыі. Абедзве п'есы, якія паказалі беластачанам купалаўцы сёлета, былі з вельмі актуальнага цяпер на Беларусі і наогул у Савецкім Саюзе нурту „чарнухі". Ну што ж, як не было, дык не было. Пра гэткія справы раней не пісалі. А цяпер кожны хацеў бы размежавацца нейкім чынам з мінулым: адвага сёння стала таннай. П'еса Ул. Бутрамеева, аднак, адрозніваецца сярод гэтага нурту сваёй глыбінёй і арыгінальнасцю.

І немалую адвагу трэба было ўсё ж мець, каб узяцца за выстаўленне такой п'есы. Добры тэатр не можа стаяць убаку ад падзей, што адбываюцца ў краіне. І гэта, як я разумею, з'яўляецца мастацкім credo рэжысёра Валерыя Раеўскага. Але зрабіць паэму з трагедыі?! Гэта ўжо вымагае нязвыклай прафесійнасці і таленту. І таму менавіта хацелася б пакланіцца купалаўцам за п'есу „Крык на хутары", так блізкую беларускаму гледачу.

Чамусьці, калі глядзіш гэты спектакль, штораз успамінаецца паэма Янкі Купалы „Адвечная песня". „Адвечная песня" (хаця, як падкрэсліваў Янка Купала, сялянскі лёс наканаваны горам і нядоляй) была гімнам вясковаму чалавеку, яго мазольнай працы, яго спадзяванням і марам. Аўдзей з „Крыку на хутары" (народны артыст БССР Г. Аўсянікаў) гэта селянін, якому ў жыцці пашанцавала дзякуючы нязвыклай працавітасці яго і ўсёй вялікай сям'і ды разумнаму гаспадаранню. Што здары-



*У Бутрамеева. „Крык на хутары". Маці Зуйка — С. Станюта.*




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 42 —

Беларускі рух шукаў прыхільнага для сябе асяроддзя. Найбольш спрыяльныя для яго варункі паявіліся перад выбарамі ў Віленскі Сейм на тэрыторыі цэнтральнай Літвы. Існуючы там часовы палітычны стан і імкненне да некранання няпольскіх нацыянальнасцей, стваралі для паасобных беларускіх дзеячоў свайго роду гарантыю для аб'яднаных дзеянняў і перад усім магчымасць свабодных выказванняў у прэсе.

Таму ў гэтым часе (1920-1922) назіраецца канцэнтрацыя беларускай дзейнасці цэнтральнай Літвы.

Аднак на віленскім грунце не хапала для дзейнасці зыходных пунктаў, падтрымкі матэрыяльных сродкаў.

У пошуках падтрымкі і сродкаў пэўныя беларускія колы наладзілі сувязь з урадам Ластоўскага ў Коўне.

Урад ковенскай Літвы напярэдадні урэгулявання сваіх межаў і віленскай справы, стараўся з'яднаць для сябе беларускі элемент, усведамляючы сабе, што адыграе ён сур'ёзную ролю ў будучым плебісцыце ў цэнтральнай Літве. З гэтай прычыны першыя крокі беларускіх палітыкаў з мэтай атрымаць дапамогу з боку ковенскай Літвы былі прыняты ў Коўне прыхільна.

30 кастрычніка 1920 года дэлегацыя на размовы з літоўскім урадам аб'явіла дэкларацыю з наступным зместам:

„Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымаўшы 27-га кастрычніка 1920 года паведамленне аб тым, што Высокі Урад Літоўскай Рэспублікі выходзіць насустрач думцы аб палітычным паразуменні і каардынацыі сілаў літоўскага народа з беларускім, пасылае паўнамоцную дэлегацыю ў складзе прадстаўленых тут асоб. Дэлегацыі даручана дайсці да канкрэтнага пагаднення з літоўскім урадам „аб новых умовах суседскага сужыцця і супольнай барацьбы ў абароне нераздзельнасці і цэласнасці тэрыторый абодвух народаў.

Падзеі з апошніх часоў і бяспраўны захоп літоўска-беларускай зямлі прадстаўнікамі польскага імперыялізму, якія збройнай сілаю патапталі наша святое права да свабоднай творчай працы і развіцця, пераканалі ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, што толькі супольным высілкам Літва і Беларусь здолеюць захаваць поўнасцю сваю дзяржаўную сувярэннасць.

Слаўнае мінулае Вялікага княства Літоўскага з'яўляецца прыкладам таго, што калі літоўскаму і беларускаму народам пагражала зняволенне з боку ўсходняй і заходняй навалы, тады пад камандаю волата літоўскай дзяржаўнасці знаходзілі яны ў аб'яднанні не толькі сілу для абароны, але і магчымасць давесці сваю дзяржаву да найбольшага росквіту.

Ужо трэці год будуецца Літоўская Рэспубліка, трэці год будуецца Беларуская Рэспубліка. Бачым, што паміж абодвума будаўніцтвамі існуе неразрыўная сувязь. Само (...) сведчыць, што Літва і Беларусь так супольна зацікаўлены эканамічна і палітычна, што добрасуседскае абгаворанне і (...) вырашэнні ў сваіх справах сталася неабходнасцю. Як у гістарычным мінулым, так і ў бягучым стагоддзі не могуць яны ісці разбежнымі шляхамі.

На вялікі жаль, да апошняй хвіліны наша ідэйная супольнасць з розных выпадковых прычын адкрыта і фармальна пацвердзілася. Ненармальнасцю нашых адносін карысталіся адвечныя нашы недабразычліўцы, будавалі на гэтым свае непрыхільныя планы.

Беларускі народ лічыць, што так далей быць не можа. Таму нам, дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі, даручыў ён ісці на спатканне справядлівым патрабаванням Літоўскага ўрада аж да акрэсленага выніку і зрабіць усё, каб перад абліччам усяго свету дайсці да братняй згоды.

Лёс Беларусі злажыўся так, што ў даны момант знаходзіцца яна ў намнога горшых умовах, чым Літва. Беларусь чакае ад Літвы як ад мацнейшага боку першага рашаючага слова.

Падпісалі:

**(—) Ластоўскі**
старшыня дэлегацыі
**(—) Аўсянік**
сакратар дэлегацыі
**(—) Цвікевіч**
**(—) Язэп Варонка**
**(—) Галавінскі**
Паўнамоцныя члены дэлегацыі

Увага! У атрыманай намі адозве знаходзіцца шэраг слоў нечытальных, якія пададзены ў дужках.



*У. Бутрамееў. „Крык на хутары". Мужык з мяшком — Г. Давыдзька, Аўдзей — Г. Аўсяннікаў.*

лася? — не разумее ён. За што яго маюць раскулачваць? Чаму маюць адабраць у яго ўсё? Ён жа цэлае жыццё чэсна працаваў!

У „Крыку на хутары" рэжысёру Валерыю Раеўскаму ў супрацоўніцтве са сцэнографам Барысам Герлаванам удалося напісаць гімн чалавечай веры ў працу, якая робіць селяніна шчаслівым. Чаму ж нехта мае сялянскую веру разбурыць, знявечыць... Ці хтосьці, хто прыйшоў у вайсковым шынялі, мае права вырашаць лёс аратага — Богам для якога зямля?!

Гукавыя эфекты, страляніна, у віры якіх апынуўся глядач, падаючы крыж — сімвал веры, — усё гэта гучыць як грознае папярэджанне: пекла не толькі было — яно існуе заўсёды!

Захапляе ігра акцёраў. Майстэрства найвышэйшага класа! Без розніцы — ці званне ў акцёра высокае, ці крыху ніжэйшае, ці акцёр гэты яшчэ наогул без звання і ці нават іграе дзіця. Дастаткова было б успомніць беларускую малітву старэйшай актрысы Беларускага тэатра імя Янкі Купалы народнай артысткі СССР С. Станюты (хаця роля яе, маці Зуйка, зусім невялікая). Дасканала іграе народная артыстка БССР Л. Давідовіч (Зуйчыха), Ю. Авяр'янаў (Сёмка) і іншыя.

Шкада, што беластоцкая публіка недаацаніла такой важнай падзеі ў жыцці горада, як прыезд Беларускага тэатра імя Янкі Купалы, што не гаварыць, вядучай адзінкі ў беларускай тэатральнай культуры. Крыўдна было іграць акцёрам для паўпустой залы. „А хто ў тэатр пойдзе? — казалі некаторыя нашы „дзеячы". — Во каб з песенькамі прыехалі!".

Дык мо беластоцкім беларусам тэатр зусім непатрэбны, а толькі „песенькі" ці нешта ў стылі „вясёленькага"? А мо наогул — зашмат гонару для нас...

* ✲ *

Калі пасля першага спектакля мы ў кулуарах тэатра Аляксандра Вянгеркі дзяліліся сваімі ўражаннямі, я заўважыла, што ў пэўных момантах мне нават здавалася, быццам нейкая нябачная рука мастака кладзе мазкі на палатно і на вачах гледача паўстае паэтычная карціна. Усім, хто слухаў, гэта спадабалася. Незразумела толькі, цягнула я, чаму дзеці Аўдзея гавораць на паўночна-ўсходнім беларускім дыялекце (будзець, пойдзець і г.д.), а бацька іх гаворыць на чыстай беларускай літаратурнай мове. Дык ад каго ж тыя дзеці гаварыць навучыліся? Немагчыма, каб аўтар, які паходзіць з Магілёўшчыны, так памыліўся, што ролю Аўдзея напісаў на літаратурнай мове. А гэта ж змяншае аўтэнтызм.

Нехта з прысутных захапіўся: „О, то ў вас і ў беларускіх гаворках разбіраюцца?!" А нехта (здаецца, даволі важны) сказаў: „Ну, якая там розніца. Беларуская мова — і добра! Вунь якія крытыкі з Варшавы кажуць, што ўзровень еўрапейскі!".

Узровень ігры сапраўды еўрапейскі, і я з сатысфакцыяй далучаюся да гэткіх галасоў. Ды толькі да мовы беларускай крытыкі з Варшавы маюць адносіны „зычліва-абыякавыя". А нам нашу мову шкада. Што будзе з ёю, з Беларуссю — не з „Северо-Западным краем"? Яны ж таксама хацелі б у Еўропу.

**Ада Чачуга**



*С. Злотнікаў. Вар'яцкае жыццё". Жалуд — А. Падабед.*


*Найдастойны пілігрым.*

лігрымкі ў выпадку запрашэння ад Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы на экуменічную малітву ў саборы Св. Мікалая Цудатворца; што й сталася, з улікам, трэба думаць, усяе палітычна-грамадскае абумоўленасці і... пікантнасці гэтага эпізоду). Былі таксама запрошаны і некаторыя асобы „грамадскага значэння“, што пару гадамі назад на абшары епіскапства ведалі дарогу адно ў Ваяводскі камітэт ПАРП. Сам гэты склад гасцей, як мяркую, выразна падкрэслівае той факт, што Праваслаўная царква ў Польшчы ў сваіх вонкавых дачыненнях не фаварызуе нейкую адну палітычную плынь, а пастуляваны экуменізм здзяйсняе не толькі ў сферы канфесійнасці, але і ў болей зямным — грамадскім — вымярэнні.

Архіепіскап Сава ў суправаджэнні святароў і дыяканаў выйшаў з сабора прывітаць госця з Рыма хвілін на дзесяць перад гадзінай пятай, як і было спланавана. Папа з цэлай кавалькадай меў прыехаць з каталіцкай пратакафедры роўна а пятай; выйшла нейкая затрымка хвілін з дваццаць- трыццаць. Малебен пачаўся з адпаведным спазненнем.

Сягоння журналісту ў Польшчы, мабыць, ужо не абысціся без хаця б элементарных ведаў у сферы царкоўнай літургікі, гамілетыкі, патрыстыкі, гісторыі і г.п., каб са спакойным сэрцам дабываць свой кусок хлеба. Аўтар са скрухаю прызнаецца, што ў вышэй згаданай дзялянцы ён — амаль поўны дылетант у наіўна-хрысціянскай стадыі, таму не ў змозе напісаць нешта разумнае пра саму багаслужбу; можа, дарэчы будзе адзначыць знакамітыя спевы царкоўнага хору на Ліповай, магутна ўспамаганыя святарамі і прысутнымі вернікамі. Літургію вёў найстарэйшы чынам святар пратапрэсвітэр Серафім Жалезняковіч. Праз тэлевізійную трансляцыю з магутнай красою праваслаўнай літургіі мела нагоду пазнаёміцца ўся Польшча.

З адпаведнымі акалічнасці прамовамі выступілі Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава і найвышэйшы біскуп Рыма-каталіцкай царквы Ян Павел II.

Архіепіскап Сава, адзначыўшы суіснаванне ў Польшчы культурна-духоўных традыцый Захаду й Усходу, Каталіцызму й Праваслаўя, падкрэсліў, што з гэтае разнароднасці павінен вырастаць і вырастае дар еднасці ўсіх грамадзян дзеля дабра супольнай айчыны. Праваслаўная царква, усведамляючы сабе ў сітуацыі падзеленага свету сваю адказнасць за ягоны далейшы лёс, імкнецца знайсці першапачатковы, евангелічны сэнс хрысціянскай любові і паяднання. Сённяшняя малітоўная сустрэча, гаварыў уладыка Сава, абапіраецца на агульную волю Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў прывярнуць еднасць паміж імі. Трагедыя гэтага падзелу з'яўляецца найвялікшай праблемай усяе хрысціянскае гісторыі. Сустрэча ў саборы Св. Мікалая — гэта чацвёртая ў гісторыі сустрэча галавы Рыма-каталіцкай царквы з праваслаўнымі вернікамі ў іхняй святыні. Гэтыя сустрэчы (раней у Ерусаліме, Канстантынопалі і Шамбесі) запачаткавалі кантакты і дыялог каталікаў з праваслаўнымі. На афіцыйным узроўні ён трывае з 1981 года: шкада аднак, што каменем, аб які спатыкаюцца ўдзельнікі дыялогу, з'яўляецца сёння так званая уніяцкая праблема. Сучасны экуменічны шлях — гэта шлях братэрскага супрацоўніцтва, паразумення, пашаны. Яму невядомыя такія з'явы, як верааддступніцтва ці празелітызм. Хай сённяшняя наша сустрэча стане пачаткам узорнага сужыцця і ўзаемапашаны нашых Цэркваў, закончыў Архіепіскап Сава.

— Радуюся, — прамаўляў папа рымскі, — што наша сустрэча адбываецца ў храме Св. Мікалая, які быў епіскапам у яшчэ не падзеленай Царкве. Пашана, аддаваная супольным святым на хрысціянскім Усходзе й Захадзе, ёсць адной з крыніц тугі па поўнай еднасці.

Далей, прыводзячы некаторыя цытаты з дакументаў экуменічнага дыялогу, папа сцвердзіў, што Праваслаўная царква і Каталіцкі касцёл з'яўляюцца Цэрквамі-Сёстрамі, і гэта павінна быць асноўнай экуменічнай катэгорыяй, на якой трэба абапіраць адносіны паміж усімі Цэрквамі, у тым ліку — паміж Касцёлам і Царквою ў Польшчы. У гістарычнай перспектыве ў адносінах гэтых не заўсёды панаваў дух евангелічнай любові. Усе мы робім памылкі, усе нясем ношу гістарычнае віны. Неўзабаве ў Італіі адбудзецца пасяджэнне камітэта Міжнароднай камісіі па дыялогу, прысвечанае надзвычай цяжкой праблеме унітызму. Верым, што цярплівы дыялог ліквідуе перашкоды на шляху да еднасці. У заключнай частцы свайго выступлення папа рымскі прынёс словы спачування праваслаўнай грамадскасці ў Поль-

**(Працяг на стар. 8)**


*Папа рымскі і Архіепіскап Сава перад супольнай малітвай.*

гурткі — дзеці ўдзельнічаюць у дэкламатарскіх, песенных і тэатральных конкурсах, самі пішуць апавяданні і вершы па-беларуску.

Тое, што ўбачыла конкурсная камісія, уцешыла. Мы былі сапраўды там, дзе людзі працуюць з сэрцам, не лічачы ўласнага часу і працы. З такімі настаўнікамі, з такімі дырэктарамі школ, дзе мы пабывалі, наша асяроддзе будзе культываваць і нашу мову, і культуру, і традыцыі.

**А вось вынікі конкурсу:**

**I месца** прызнана настаўніцы з 24-гадовым стажам у навучанні беларускай мовы і літаратуры **Зінаідзе Дзямянюк** з беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча.

**II месца** заваявала маладая настаўніца з гайнаўскай школы н-р 3 **Вольга Сянкевіч.**

**III месца — Ніна Абрамюк** з Ласінкі.

Вылучыла камісія настаўнікаў, якія ў цяжкіх памяшкальных умовах выказалі шмат гарту, энергіі і творчага запалу для таго, каб і ў іх школах усе дзеці вывучалі родную мову на высокім узроўні. Такое **вылучэнне прызнана** шматгадовым настаўнікам **Вользе Гарустовіч** з Дубіноў, **Анне Шыманскай** з Орлі і маладой настаўніцы з Храбалоў **Ірыне Ефімюк.**

Усе гэтыя настаўніцы атрымалі права выезду на сустрэчу з лаўрэатамі ў Гародні. У сувязі з тым, што не ўсе нашы лаўрэаты маглі ехаць у вызначаны час у Гародню, **дадаткова ўзнагароджаны** выездам удзельніцы конкурсу **Валянціна Касцевіч** з Арэшкава і **Вера Флорчук** з Кленікаў.

Пабыўка ў Гародні нашых настаўнікаў аказалася вельмі цікавай і плённай. Але аб гэтым няхай напішуць яны самі.

**Яніна Чэрнякевіч**

## Я НА АДПАЧЫНКУ Ў ВІДАВЕ

Калі я прыехаў на адпачынак у Бельск, убачыў прыгожы нованабудаваны вакзал — цяпер і гэтае мястэчка наблізілася да Еўропы. У сярэдзіне будынка вакзала пачакальні ПКС і ПКП — шматлюдна. Выйшаўшы навонкі вакзала, не пазнаў я, як усё яно змянілася — тут і ПКС і МПК. Аўтобусам гарадской камунікацыі дабраўся я ў Відава і там жа падумалася мне адведаць знаёмых і сяброў у Бельску. Каб даехаць у горад, трэба было сесці на веласіпед, бо камунікацыя працуе ўсяго па тры гадзіны зранку і пасля абеду — дайшлі да мяне чуткі, што бельскую гарадскую камунікацыю хочуць увогуле ліквідаваць, каб яшчэ болей наблізіцца да Еўропы. Паміж Відавам і Бельскам Аляксандр Артэмюк адчыніў спажывецкую краму, у якой купіць можна ўсё. Ахвотных да пакупак не бракуе — абслуга ў краме прыемная ды і піва тут можна выпіць. У Відаве быў калісьці магазін, але ГС яго ліквідаваў, бо нерэнтабельны. У Артэмюка ўсё рэнтабельнае — ён жа сам дастаўляе тавар і прадае яго. Я еду далей — на вуліцу Дубічы, якую ўжо тры гады мадэрнізуюць. Ехаць па ёй нялёгка даецца — на вуліцы кучы пяску і ямы, працаўнікі марудзяць з работай. Там, дзе Дубічы крыжуюцца з вуліцай Казімежоўскай, стаіць высозны вяз — шмат было барацьбы паміж ахоўнікамі прыроды і гарадскімі ўладамі, каб захаваць гэтае дрэва. Цяпер вяз у спісе помнікаў прыроды. Па дарозе заходжу ў майстэрню разбяра — працуе якраз над іканастасам для царквы св. Варвары ў Ку-

**(Працяг на стар. 8)**

# З белавежскіх нетраў у Францыю

Усё пачалося з візіту ў Белавежу некалькі гадоў таму вядомага французскага біёлагу Жыльберта Лаўры. Ён жа, пасля вяртання ў Францыю, задумаў заснаваць у абязлюдненым рэгіёне Маргерыд, што ў Цэнтральным масіве, зубрагадоўлю, каб пабольшыць атракцыйнасць рэгіёна, сцягнуць сюды больш турыстаў, а такім чынам палепшыць мясцовыя эканамічныя абставіны. Задуму падтрымала тамашняе таварыства любіцеляў рэгіёна.

У лютым 1990 г. французы запрасілі некалькіх працаўнікоў Белавежскага нацыянальнага парку, каб яны на месцы паглядзелі, ці прапанаваная тэрыторыя наогул падыходзіць для гадоўлі зуброў. Агляд закончыўся адабраючай ацэнкай. У лістападзе 1990 г. дэлегацыя французаў прыязджала ў Белавежу, каб аформіць справу перадачы нацыянальным паркам дваццаці зуброў. Вырашана, што каралі пушчы будуць дастаўлены ў Францыю бясплатна, як падзяка французам за помач Польшчы ў ахове прыроды.

І вось 29 мая г.г. у Францыю адправілі першую партыю (9 штук) белавежскіх зуброў, з якіх тры — гэта асабісты дар прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польскай прэзідэнту Францыі. Праўда, можна было адправіць іх усіх (20 штук), але французы даставілі неадпаведны транспарт — яны проста думалі, што зубры можна перавозіць... стадам, у адной вялікай клетцы. У Маргерыд адправіліся з зубрамі, на паўгода, кіраўнік белавежскай зубрагадоўлі, Георгі Дацкевіч і ветэрынар д-р Збігнеў Красінскі. Зразумела — дзеля абучэння зубрагадаванню тамашніх апекуноў.

На пачатак французы збудуюць для зуброў агароджу на 200 га. Турысты будуць аглядаць жывёліну з брычак, рухаючыся па вызначаным шляху.

Шчаслівa вам, белавежскія валаты!

**Пётр Байко**
**Фота Анджэя Кэчынскага**



*Працаўніца Белавежскага нацыянальнага парку Яланта Харытонава развітваецца з „каралём пушчы“.*

## Я НА АДПАЧЫНКУ Ў ВІДАВЕ

**(Працяг са стар. 7)**

заве. Разбяр Міхась кажа мне, што пасля заканчэння працы над іканастасам падрыхтуе для „Нівы“ вершы са свайго сшытка. Вершы — такія, што раней у турму можна было за іх трапіць. У далейшым адведаў я інжынера Барыслава Рудкоўскага, які займаецца афармленнем кніжак. Ён жа, між іншым, аформіў усю дакументацыю праваслаўных прыходаў Беласточчыны.

Падчас сваёй экскурсіі не прапусціў я нагоды, каб зайсці ў клуб БГКТ, у якім сардэчна мяне прывітала Аня Бжазоўская. Калі мы так сядзелі і гутарылі, у клуб завіталі дзеці з пачатковай школы нумар 3. Цікава было прыглядзецца, як чацвертакласнікі чыталі „Беларускія народныя казкі“ і „Родную мову“. Галіна Наумчук вядзе ў клубе заняткі з дзіцячым хорам, а Ларыса Бурыла і Міраслава Маркевіч — тэатральны гурток. У бельскім клубе БГКТ можна таксама набыць „Беларускі каляндар 1991“.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ПАПА РЫМСКІ Ў БЕЛАСТОКУ

**(Працяг са стар. 7)**

шчы ў сувязі са злачынным спаленнем царквы на Св. Гары Грабарцы і рабункам у праваслаўным манастыры Св. Ануфрыя ў Яблачыне.

Малітоўнае спатканне ў саборы Св. Мікалая закончылася сімпатычным акцэнтам — абменам падарункамі. Папа рымскі ў падарунак ад вернікаў Беластоцка-Гданьскай епархіі атрымаў ікону Мацеры Божай.

Беластоцкая сустрэча ў праваслаўным саборы і супольная малітва ды словы там выказаныя, як лічу, мелі надзвычай важнае значэнне не толькі ў эклезіястычнай сферы, але і ў зусім лакальным абсягу нашага „беластоцкага панадворка“: падзея гэтая як бы зняла тую напружанасць, што ад нейкага часу ўсталявалася паміж праваслаўнымі і каталікамі, асабліва пасля той трагічнай серыі пажараў і рабункаў праваслаўных храмаў у Польшчы. Асуджэнне Зла, выказанае вуснамі рымскага пантыфіка, мае не толькі маральную вымову. Па-другое, у кантэксце папавай пілігрымкі сустрэча з праваслаўнымі ў Беластоку, трансляваная на ўсю краіну, не магла не паўплываць станоўча на той „цьмяны і экзатычны“ вобраз Праваслаўя, што наогул бытуе ў свядомасці статыстычнага паляка. Ёсць у Польшчы трывушчая духоўна-культурная традыцыя, нароўні старажытная з лацінскай, якая бачыць сябе нароўні з усімі іншымі праявамі жыцця краіны. Словы Архіепіскапа Савы на гэты конт не пакінулі, як здаецца, аніякіх сумненняў.

**Ян Максімюк**
Фота аўтараў




Сэрцайка, зманіла б я, калі б сказала, што я вельмі наіўная дзяўчына. Мне ўжо 25 гадоў і бачыла я ў сваім жыцці рознае. Эратычнае жыццё маё пачалося яшчэ ў сярэдняй школе. Першым хлопцам быў мой школьны калега, а першыя нашы сексуальныя кантакты прыпалі якраз на той час, калі я была ў другім класе ліцэя. Было мне тады 16 гадоў. Я не была выхавана так, што магла ісці з кожным хлопцам у пасцель. Для мяне гэты момант застаўся ў памяці на ўсё жыццё. Былі спачатку нейкія нясмелыя дотыкі, а толькі праз паўгода мы пачалі з ім жыць, як муж з жонкай. Наша сяброўства працягвалася да канца школы. Я, на шчасце, не зацяжарыла, бо мы вельмі баяліся гэтага і я купляла антыканцэпцыйныя сродкі ў аптэцы.

Пасля мой хлопец здаў экзамен у вышэйшую школу ў Варшаве, а я засталася дома. Мне паступіць нікуды не ўдалося. Спачатку ён прыязджаў да мяне, а пасля стаў прыязджаць усё радзей, а ўрэшце перастаў заходзіць нават тады, калі прыязджаў да бацькоў. Я даведалася, што ў Варшаве ў яго паявілася новая нарачоная, і так усё развеялася. Я перажывала гэта. Быў ён хлопцам, які ўвёў мяне ў палавое жыццё, у якім, не скажу, я расмакавалася.

І так я засталася адна. Знайшла даволі цікавую працу, мела шмат свабоднага часу. Усе сяброўкі былі заняты сваімі хлопцамі, а ў мяне не было нікога. І тады я выпадкова аддалася аднаму са сваіх калег па рабоце. Адчула, аднак, пасля гэтага нейкую прыкрасць. Я ж яго не кахала! Праз нейкі час я рассталася з іншым, а пасля ўжо гэта сталася нармальнай справай. Нікому з гэтых мужчын я не была аддадзена без рэшты, бо ў глыбіні душы застаўся боль па першым хлопцу. Я ўжо не ўмела нікога пакахаць і мне здавалася, што ніхто мне ў жыцці такі не сустрэнецца.

Але аднойчы я была на вяселлі. Сяброўка мая прыйшла са сваім хлопцам, а я сядзела адна. Гэты хлопец запрасіў мяне пару разоў танцаваць. Калі мы танцавалі, а ён моцна прытуліўся да мяне, я адчула, што яго б я магла пакахаць. Відаць, спадабалася яму і я, бо ён быццам зусім забыўся, з кім прыйшоў, перасеў да мяне і ад таго часу мы ўжо ўвесь час былі разам. Забыўшыся на сваю дзяўчыну, ён у кустах на панадворку пачаў цалаваць мяне, а пасля дайшло і да палавога зближэння. Мне было сорамна за тое, што я ўвайшла ў дарогу сяброўцы, але адначасова я адчувала сябе шчаслівай.

Мы пачалі сустракацца. Я нямела ад шчасця. Ён цалаваў мяне як ніхто дагэтуль: па ўсім целе, па найбольш інтымных месцах.

Але пасля высветлілася, што мой новы каханы любіць яшчэ і іншыя штучкі. А менавіта найахвотней кахаўся б так, як кахаюцца педэрасты, прабач, Сэрцайка, ззаду. І, страшная справа, мне гэта пачало падабацца. Скажы, Сэрцайка, ці гэта страшны грэх кахацца гэтак?

**Мірка**

Мірачка! Толькі гэта табе неўзабаве і застанецца. Прынамсі бяспечна будзе. Антыканцэпцыйных сродкаў ужо ў аптэках так не даюць. Трэба мець рэцэпт ад лекара, ды і так засталіся толькі тры лекі, а да таго платныя ў ста працэнтах. А што будзе, як забароняць аборты?.. Тады хоць павесся... А можа ж і гэты хлопец табе перастане калісьці падабацца?!.

**Сэрцайка**




# СОУСЫ

### КЛАСІЧНЫ

На 3 лыжкі алею трэба ўзяць сок з 1 лімона або 1 лыжку віннага воцату, соль, цукар, перац.

Расцерці драўлянай лыжкай або маленькім венічкам алей з лімонным сокам ці вінным воцатам. У часе збівання павінна атрымацца аднастайная маса. Дадаць па смаку солі, цукру і перцу. Хто любіць, можа дадаць крыху муштарды. Класічны соус выкарыстоўваюць перш за ўсё да зялёных салатаў і цыкорыі. Можна, аднак, заліваць ім таксама вараную, астуджаную і нарэзаную гародніну, як, напрыклад, цвятную капусту, шпарагі, бурачкі, сэлер, цукінію і іншыя.

### МАЯНЭЗНЫ

Узяць 1 лыжку мукі, 4 лыжкі алею, шклянку булёну або адвару з гародніны, яшчэ паўшклянкі алею, 2 жаўткі, сок з 1 лімона, соль, перац (найлепш белы), цукар.

У каструльцы перамяшаць венічкам алей з прасеянай мукой. Хвіліну падаграваць, памешваючы. Не падсмажваць! Паступова дадаваць халодны булён ці адвар. Падаграваць, пастаянна мяшаючы, пакуль соус не закіпіць. Зняць з агню. Далей збіваць соус, дадаючы паступова алей і жаўткі. Дадаць па смаку солі, сок з лімона і крыху цукру.

Маянэзны соус падаюць да птушкі і рыбы ў халодным выглядзе, а таксама да салатаў. Падрыхтаваны такім чынам маянэз добра ўтрымліваецца зверху стравы, не сплывае.

### МУШТАРДОВЫ СОУС

На 2 лыжкі муштарды (гарчыцы) бярэм 1/3 шклянку алею, 3/4 шклянкі смятаны, 2 лыжкі пасечаных лісткоў эстрагону, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 2 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі, лімонны сок або вінны воцат, соль, цукар, перац, 1/2 кілішка сухога віна.

Муштарду перамяшаць са смятанай венічкам, збіваючы, дадаваць пакрысе алей. Збіты соус перамяшаць з пасечаным лісцем прыпраў і віном. Дадаць па смаку лімоннага соку або віннага воцату, солі, цукру і крыху перцу.

Падаюць гэты соус да яек і халоднага мяса.

**Гаспадыня**

# Зорка
## Старонка для дзяцей



*Я завуся цішынёй...* *Фота У. Завадскага.*

# Я ЎЖО НЕ БАЮСЯ!

**Уладзімір Юрэвіч**

Каля дома ў нас пляцоўка для маленькіх. Такая ж, як і ў дзіцячым садзіку. Усё ёсць на ёй, каб гуляць, — пясочніца, гушкалка, ды не адна, драбінка, каб вучыцца лазіць, турнічок, каб падцягвацца, а яшчэ горка, каб коўзацца. Бярозка захінае горку ад дажджу, куст бэзу — ад ветру.

Лукашок ужо адважыўся катацца на двухколым веласіпедзе без страхоўкі. Ён умее ўзбірацца на турнік і спрабуе нават падцягвацца. Калі рукі слабеюць, ён спрытна саскоквае долу. Прызямляўся мякка, на пальчыкі, як вучыў яго тата. Сам узлазіць на горку па лесвіцы, а з'ехаць баіцца. Каб панесціся ўніз, трэба ж рукі адпусціць ад борта, не трымацца. Страх не дае гэта зрабіць.

Нават меншыя за Лукашка дзеці спрытна ўзбіраліся на горку і, сеўшы, узнімалі рукі, несліся долу. І крычалі з радасці.

Горка выслізгана да бляску, чысценькая. На штоніках ніякага следу не застаецца ад коўзання.

Калі ўнізе, там, дзе канчаецца горка, стаіць мама або тата, Лукашок стрымгалоў нясецца долу, ведае, што яго зловяць. А вось калі нікога з дарослых побач няма, не пускае Лукашка нейкі таямнічы страх. Хлопчыку здаецца, што ён не здолее стаць на ногі і носам зарыецца ў пясок. Нехта нібы шэпча яму на вуха: „Не едзь, разаб'ешся..." Што заставалася Лукашку? Павярнуцца на пуза і паціхеньку, трымаючыся аберуч за барты, спаўзці ўніз. Але ж гэта нецікава, ды і непрыгожа. Лукашковы сябры дражняць: „Баяка... Лукака-баяка..."

Лукашок злаваўся, бег да лесвіцы, спрытна ўзбіраўся на горку, садзіўся на край... І не з'язджаў... „Тата, навучы мяне з'язджаць з горкі, каб, як усе, не баяўся я", — прасіў Лукашок бацьку, калі той выходзіў з ім у двор пагуляць.

І зноў паўтаралася тое ж самае — з татам ён быў смелы, а без яго „баяка".

Аднойчы выйшлі яны ў двор, прыхапіўшы жоўты, з чырвонай палоскай мячык. Перакідалі яго адзін аднаму, пасаваліся. Усё спрытней лавіў хлопчык мяч, а тата кідаў яго штораз мацней і мацней. Нібы мерыўся пацэліць у Лукашка, а яму трэба было ўстаяць перад імклівым палётам мяча, адбіць яго назад або злавіць.

Пагулялі трохі, надакучыла. Тата прысеў на лавачку адпачыць, а Лукашок тым часам узлез на горку. Сеў на самы краёк, спусціў ногі і ўсё прымерваецца, як бы гэта панесціся ўніз па такой прывабнай бліскучай дарожцы.

І раптам хлопчык убачыў, што проста ў твар яму ляціць яго чырвонапалосы мячык. Лукашок узняў рукі, каб засланіцца... І тут жа зразумеў, што ён сам нясецца з горкі ўніз, ды так хутка, што аж вецер у вушах свішча. Хораша, прыемна. І Лукашок радасна закрычаў:

— Тата! Глядзі, як я лячу-у-у!..

Не паспеў хлопчык уцяміць, як гэта ўсё здарылася, а ўжо стаяў абедзвюма нагамі на зямлі. Лукашок схапіў мяч, які таксама апынуўся на зямлі, і кінуў бацьку, крычучы:

— Тата, лаві!

Сам жа рынуўся да лесвічкі, каб узабрацца на горку зноў і з'ехаць з яе яшчэ раз. Гэта ж так прыемна, ажно дых займае!

Шмат разоў у той падвячорак разлятаўся на ўвесь двор пераможны Лукашкоў вокліч: „Тата! Я ўжо не баюся!.."

**Казімір Камейша**

### ПЧАЛІНАЯ ПЕСНЯ

Блукаў я сёння раніцай
У сховах сасняка
І песеньку пчаліную
На верасе спаткаў.

Мядовая,
ружовая
Мелодыя плыла.
Ляцела песня ўдалечы
Крылата, як пчала.

Спявалася пра лета ў ёй,
Пра сонейка усход.
А песня,
як прыслухаўся,
Была ўсяго пра мёд.

### ЦІШЫНЯ

Я іду ў пуховых тапках,
На каціных мяккіх лапках.

Заглядаю пад павеці,
Лашчу коласу вусы.
Я ў сукеначчы з паветра,
Я ў касыначцы з расы.

Ціха, гром,
Гурчаць не трэба.
Ціха, мушка, не звіні!
Дай паслухаць, як у дрэва
Прарастаюць карані;

Як вадзіца дрэмле ў кране,
Як гусцее ў сотах мёд,
Як гарбуз вяроўку цягне
У бульбоўнік цераз плот.

Ціха сонца дагарае
І хаваецца за гаем.

Не глядзіце ўдалеч сумна.
Я тут блізка, за сцяной.
Я іду.
Я сон нясу вам.
Я завуся цішынёй.

### АЛЕСЬ КАСЦЕНЬ

Зазззяла вёска. Ноч і золь.
Лясы няверу і знявагі.
Ды колькі ў вёсачцы адвагі!
Які — у кожным промні — боль!

Вяслуе вечнасці вясло,
Разносяць промні з душ у душы
Цяпло вясковых простых слоў,
Вясковай мовы незаснуўшай...

Ты, быццам ласка ад зямлі,
Душы нявызнаныя сілы,
Ты, мова, дзе б мы ні былі,
Падорыш для вяртання крылы.

### КАСТУСЬ ЖУК

Я параўнаю з дзівасілам
зямлю,
што дадзена мне ў спадчыну,
дзе па вясне
дужэюць крылы,
вяртае вырай
мова матчына.

Магчыма,
тым і ганаруся,
што з нашай глебы прарасло
і сонца
вечнай Беларусі,
і мовы
вешчае святло!

...Так мовы матчынай павевы
прад сынам зноў ва ўсёй красе
паўстануць з дзён былых, —
павер'ем,
Купаллем,
сонцам у расе!

# Малюнкі школьнікаў



Ноч. Малюнак Касі Шумікоўскай.

# Легенды і паданні

### ЗАЧАРАВАНАЯ ДЗЯЎЧЫНА

За адну вярсту ад вёскі Лыскоўскай воласці Ваўкавыскага павету і цяпер знаходзіцца невялікі гай, пра які ў памяці мясцовых жыхароў захавалася такое паданне. Адзін чалавек, Янка, праязджаў каля яго ў саму поўнач. Калі ён наблізіўся да акопаў, якія відаць і зараз, убачыў вялікую жалезную скрыню, а па абодвух баках яе — двух сабак на ланцугах; на скрыні сядзела дзяўчына і часала валасы, ад якіх шугаў агонь. Дзяўчына з слязьмі стала прасіць Янку падысці да яе і распутаць валасы. За гэта яна абяцала зрабіць яго шчаслівым на ўсё жыццё і сказала, што злыя сабакі не крануць яго. Здзіўлены і спалоханы Янка не адважыўся, аднак, падысці да дзяўчыны, а кінуў ёй свой пояс, каб мацней прывязаць сабак.

Але толькі пояс крануўся дзяўчыны, скрыня загрымела, бразнулі ў ёй грошы, і дзяўчына адчайна войкнула і добра чуваці было, як вымавіла:

— Праклята твая душа адныне да веку, што ты мяне зачапіў: мучылася я сто гадоў, буду мучыцца і яшчэ столькі ж, але і ты не ўваскрэснеш.

З гэтымі словамі яна праваліліся скрозь зямлю разам са скрыняй, сабакамі і Янкавым поясам..

# Вучнёўская творчасць

### Мілая „Зорка"!

Пішa табе вучаніца IV „э" класа Пачатковай школы ў Бельску-Падляшскім, Эмілія Мартынюк. Я хачу падзяліцца з табою, „Зорачка", вялікаю навінаю. Ад нядаўна ёсць у мяне новы прыяцель — хамяк. Атрымала я яго ад свайго сябра Радка Кардзюкевіча. У хамяка рыжанькае футэрка, чорныя вялікія вочы, маленькія лапкі, а жыве ён у клетцы. Заву яго Мыся. Ой, раз яму ўдалося ўцячы, ды яго хованку адкрылі мы з мамай.

Цяпер вясна, і я Мысю выпускаю на панадворак пабегаць па траўцы, ды і там трэба яго пільнаваць.

Хамяк любіць „хамякаваць" ежу. У яго два вялікія мяшкі ў пысцы і, калі ён іх напоўніць ежай, выглядае вельмі смешна. Такі прыемны з яго звярок!

Раю ўсім дзецям, якія любяць звяроў, гадаваць хамяка. Пабачыце, колькі будзе радасці і смеху!

**Эмілія Мартынюк**

# Вершы Віктара Шведа

### ПАРАЗІТЫ

Настаўнік заалогіі сярдзіты
Аднойчы вучняў запытаў на ўроку:
— Каго мы называем паразітам,
Якіх так многа бачыцца навокал?

— Не трэба мне шукаць далёка недзе
Тых паразітаў, — адказаў Валодзя. —
Гэта каза назойлівых суседзяў,
Яна пасецца ў нашым агародзе.

### ВЫПАДАК

— Ты растлумач мне гэткі
Выпадак вось адзін:
Сястра твая брунетка,
А ты — чаму бландзін?
— Тады малую Олю
Даў нам ласкавы лёс,
Калі змяніла колер
Мама сваіх валос.

### ЗВЯРЫ МЯНЯЮЦЬ ФУТРЫ

Халадэча на дварэ.
Голасна сынок чытае:
— Некаторыя звяры
Футры на зіму мяняюць.

Бацька кажа: — Грамацей
Ты цяпер у нашай хаце.
Ды чытай аб тым цішэй.
Бо яшчэ пачуе маці.

# Беларускія гульні

### КУРНАЦІЦА

**Апісанне гульні:** усе становяцца ў калону адзін за адным. Той, хто стаіць спераду, лічыцца важаком. Дзеці дробным крокам рухаюцца ўперад і спяваюць:

Вышэй, ніжэй, Курнаціца,
Набок шапка-вушаніца.

Важак аддае загад: „Шапку набок!" — і ссоўвае сваю шапку набок. Дзеці, гледзячы на важака, ссоўваюць свае шапкі набок, а дзяўчынкі хусткі. Хто не выканае загад, ці выканае яго не дакладна, плаціць фант важаку. Пасля гэтага дзеці рухаюцца далей, а важак аддае новы загад: „Легчы на бок!", „Падняць рукі ўгору!" У канцы гульні дзеці выкупліваюць фанты (спяваюць, танцуюць, выконваюць разнастайныя рухі).

Правілы гульні: курнаціца павінен загадваць заданні, якія патрабуюць ад дзяцей спрыту, хуткасці, каардынацыі рухаў.

**Мікола Братан**

### У ДВУХ ВЫМЯРЭННЯХ

**У вагоне кантралёр спытаў:**
**— Колькі год маломy пасажыру?**
**І Пятрусь бадзёра адказаў:**
**— Дома пяць, а ў цягніку — чатыры!**

**Алена Пчілка**

### ЗДАГАДЛІВАЕ ДЗІЦЯ

**— Мама! Ты не ведаеш, які выпадак у нас здарыўся! У дзежку з квасам мыш упала!**

**— Ой, божа мой! Ты яе выцягнуў?**

**— Эгэ! Буду я яе даставаць! Каб яна мяне ўкусіла? Я злавіў ката і ўкінуў у дзежку, каб ён мыш з'еў.**

**З украінскай мовы пераклаў Валерый Бабей.**

# Вясёлы куточак

### З БАЛГАРСКАГА ГУМАРУ

☼

Бацька аднаго хлопчыка працаваў у магазіне. Аднойчы ён павёў сына на футбольны матч.

Пабачыўшы ігракоў, малы здзівіўся:

— Тата, а чаму ў іх цана на спіне?

☼

Хлопчык некалькі гадзін прабыў з бацькам на беразе рэчкі. Бацька лавіў рыбу, але не злавіў ніводнай.

Вечарам хлопчык пытае ў маці:

— Мама, хіба ў нас няма грошай, каб купіць рыбу?

☼

— Тата, давай паб'емся аб заклад, што ты не можаш рабіць таго, што я раблю!

— Чаго, напрыклад?

— Расці.

☼

Маці: Міца, як табе не сорамна?! Зноў увесь брудны, паглядзі на новыя штаны!

Міца: Не паспеў іх зняць, матуля, калі падаў у яму...

☼

У парку жанчына пытае сямігадовага хлопчыка:

— У цябе ёсць сястрычкі і брацікі? Колькі вас у бацькоў?

— Пяцёра.

— Значыць, ты самы старэйшы?

— Не... Самы старэйшы — дзядуля.

**Пераклаў В. Бабей**

# А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Спалучы спачатку кропкі, потым крыжыкі — пабачыш, што схавалася на градцы сярод кветак.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

## ВІРАВАНКА

Словы ўпісваем такім чынам: першая літара — у клетачку з нумарам, другая — у клетачку са стрэлкай, астатнія — вакол клетачкі з нумарам згодна з рухам гадзіннікавых стрэлак.

1) малодшы ад старшыны ў войску (з іржой у сярэдзіне),
2) малое, якое вылупілася з яйка (у сярэдзіне чарніла для чарчэння),
3) цвёрдае рэчыва ў дробных частках (двое+стрэс),
4) самаходная машына (дарога+сотка),
5) празмерная пачуццёвасць да другога полу (пачынаецца эпохай),
6) няшчасны чалавек (тое, што над намі + той, хто лезе ўзад),
7) незвычайна высокі чалавек (у сярэдзіне — колькасць),
8) халасцяк (з чорным напіткам у пачатку слова),
9) управа, улева або назад (паўлінава самка з чалавечай пашчай),
10) нашчадак (з кнігай у сярэдзіне і раслінай у канцы),
11) круціцца вакол Сонца (з чарцяжом у пачатку),
12) 1000 ват (у сярэдзіне доўгая мэбля для сядзення),
13) тканіна (у пачатку частка паліто).
14) спартыўны комплекс з футбольным полем (з ім у канцы),
15) паўвостраў і штат у ЗША, з якога вылятаюць у космас (з соткай у сярэдзіне).

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 20.**
**Упоперак:** манеж, пітон, абза, скарб, аралія, руда, Алена, удушша, унікум, захады, качаня, асака, атол, Сахара, урвіс, акоп, куліч, аблік.
**Уніз:** міска, неаген, жабрак, парад, Талаш, наяда, задума, лупа, „Ніва", Улас, штык, узятак, халупа, дазвол, касяк, чахол, Нарач, аўсюк.

НІЎКА

НЕ ЎСЕ АДНОЛЬКАВА ДЗЕНЬ ПАЧЫНАЮЦЬ

*Мал. Адама Сяменчыка.*

## Матчыны апавяданні

### БАРЭЙКАВА РЫБА

Жыў у нашым сяле Барэйка. Прыйшоў ён з рыбы і расказвае: „Як зацягнулі сетку ў Мухаўцы — шэсць пар коней запрэглі, каб выцягнуць тую рыбу. Як высыпалі — аж тры вазы. Прывезлі дадому — поўная балея. Сталі варыць — цэлы чыгун, аж з вярхом. Пачалі есці — усім па кусочку, па кусочку, а Сцяпану не хапіла".

Другім разам ён вярнуўся з палявання і стаў гаварыць, што бачыў ліса з хвастом даўжынёй аж у два кіламетры. Дзядзькі яму не давалі веры. Тады ён скараціў хвост да кіламетра. Таксама не паверылі. Зменшыў да дваццаці, дзесяці, нарэшце да двух метраў. Усё адно дзядзькі сумняваліся. Ён здзівіўся:

— Дык што, па-вашаму, ліса зусім без хваста была?

А то яшчэ ён расказваў: „Заходжу ў клуню, верабей у дзверы, а я пырх".

### УСІМ ДАВОЛЬНЫ

Дзела было так. У бацькоў адзіная дачка захварэла, і ніякія дактары не памагаюць. Сказалі бацьку: „Ідзі шукай па свеце такога чалавека, каб усім быў давольны, і здымі з яго рубашку і надзень на дачку".

Пайшоў бацька шукаць. Быў у каралёў і цароў, у бедных і багатых, усіх распытваў, ці давольны яны сваім жыццём. Усе адказвалі, што не давольны. Ідзе дадому ён сумны, бачыць — ляжыць у гразі п'яны і не можа ўстаць. Пытае яго, ці ўсім ён давольны. Той адказвае: „Усім давольны".

От знайшоў чалавека, што ўсім давольны. Але ці надоўга?

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 3727. | **Аляксандр Баршчэўскі (Варшава)** | — | **100000 зл.** |
| 3728. | **Ніна Баршчэўская (Варшава)** | — | **100000 зл.** |
| 3729. | **Гміны кааператыў „Сялянская самадапамога" ў Гайнаўцы** | — | **400000 зл.** |
| 3730. | **Анатоль Маўчун (Познань)** | — | **50000 зл.** |
| 3731. | **Гурток БГКТ у Белавежы** | — | **50000 зл.** |
| 3732. | **Міхал Дулько (Белавежа)** | — | **50000 зл.** |
| 3733. | **Анатоль Ахрыцюк (Гайнаўка)** | — | **95000 зл.** |
| 3734. | **Уладзімір Каролька (Гайнаўка)** | — | **60000 зл.** |
| 3735. | **Павел Алексюк (Гайнаўка)** | — | **84000 зл.** |
| 3736. | **Віктар Стахвюк (Беласток)** | — | **60000 зл.** |
| 3737. | **Праўленне гарадскога гуртка Саюза ветэранаў РП у Гайнаўцы** | — | **175650 зл.** |
| 3738. | **Надзя Барт (Нямеччына)** | — | **50 марак** |
| 3739. | **Ян Козяк (Беласток)** | — | **60000 зл.** |
| 3740. | **Ольга Троц (Беласток)** | — | **60000 зл.** |
| 3741. | **Уладзімір Троц (Беласток)** | — | **60000 зл.** |
| 3742. | **Мікалай Прызовіч (Парцава)** | — | **30000 зл.** |
| 3743. | **Анна Артэмюк (Парцава)** | — | **30000 зл.** |
| 3744. | **Сума з адкрыцця скарбонкі ў Музеі ў Гайнаўцы** | — | **431800 зл.** |
| 3745. | **Ян Хіліманюк (Гайнаўка)** | — | **60000 зл.** |
| 3746. | **Супрацоўнікі ПКО ў Гайнаўцы** | — | **7000 зл.** |
| 3747. | **Сума са скарбонкі, якую назбіралі Сяргей Харкевіч і Міхал Голуб 27 мая г.г.** | — | **212000 зл.** |
| 3748. | **Сума са скарбонкі, якую назбіралі Людміла Кісляк і Міхал Голуб у Крынычцы 29 мая г.г.** | — | **101850 зл.** |
| 3749. | **Валянціна Леўчук (Курашава)** | — | **5000 зл.** |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42. Тэлефон 3016.**

### ПЕРАЕХАЎ

На вясковай дарозе шафёр пераехаў гусь. Выйшаў ён з машыны, паглядзеў наўкола і, нікога не заўважыўшы, стаў грузіць яе ў багажнік. А тут з-за плота адзываецца гаспадыня:

— Эй, чалавеча! Не скажаце хіба, што хочаце яе адвезці ў бальніцу...

### НЕ КОЖНАЙ ДАПАМОЖА

У санаторыі адзін курортнік скардзіцца другому:

— Апошнім часам жонка ўсё часцей учыняе скандалы. Не ведаю, што і рабіць.

— Вазьмі човен і пакатай яе па моры. Маёй гэта дапамагло.

— А маёй не дапаможа.

— Чаму?

— Яна добра плавае.

Ніва

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палопкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa", ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

I. Prenumerata pocztowa

1. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie. Od lipca 1 egz. kosztować będzie 1.000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— czerwiec — 9.000 zł.
— lipiec — 8.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok. 5021-3203-132.

Zam. 554/91.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Кашмар, ад якога не прачнуся — высвятленне пасляваеннай трагедыі ў Стацэвічах ● Гледзячы збоку на нашы міжусобіцы ● Масей Сяднёў аб паэзіі Яна Чыквіна ● Пры „круглым стале" аб беларускай дыяспары ● Супрацоўніцтва Бельска і Мінска ў выхоўванні дзяцей ● Беларускія парламентарыі ў Гайнаўцы.**